


# DISTRICTUS

# ПАВЕТ



№ 7-8 (11-12)
КАСТРЫЧНІК-ЛІСТАПАД
2002 г.

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ




Паўрасталі ў зямлю
замшэлыя камяні
з незразумелымі
літарамі:
на зямлі
нікога не засталося,
хто змог бы іх
прачытаць?!.

*Алесь Разанаў*

Адной з галоўных гістарычных падзей для Браслаўшчыны за мінулы год стане выяўленне Друйскага Барысавага каменя з крыжом і надпісам XII ст. Каштоўнейшы помнік каменнага пісьма, помнік ранняга перыяду хрысціянства на нашых землях, гістарычны сведка станаўлення беларускай дзяржаўнасці, святыня ўсёй Беларусі – вось што такое адзін з ацалелых Барысавых камянёў, які зараз кожны зможа ўбачыць у Друі. Убачыць і датыкнуцца да тых памятных знакаў, якія пакінулі на ім далёкія продкі каля 900 год таму.

Тое, што адбылося 23 кастрычніка, калі ўдзельнікі прац па выяўленню каменя ўбачылі фрагмент крыжа і літары, можна без перабольшвання назваць падзеяй нацыянальнага маштабу. Толькі гэта трэба асэнсаваць усім нам, і асэнсаванне гэта прыйдзе не адразу.

А яшчэ выяўленне Друйскага Барысавага каменя – добры знак для тых, хто зараз жыве і будзе нараджацца на гэтай зямлі.

Друйскаму Барысаваму каменю, акалічнасцям яго гісторыі, працы па выяўленню пасля доўгага перыяду нябыту будзе прысвечана значная частка гэтага нумара “Павета”.

# ВЕСТКІ

На працягу тыдня з 28 жніўня на Браслаўшчыне працавала комплексная экспедыцыя чатырох універсітэтаў Беларусі, Літвы, Польшчы і Германії па даследванню сучаснай моўнай сітуацыі рэгіёна. Вывучаліся асаблівасці гаворак беларускай, польскай, літоўскай, стараверскай этнічных груп Браслаўшчыны.



У суботу, 31 жніўня, 600-годдзе з часу першай згадкі ў пісьмовых крыніцах адзначыла вёска Дрысвяты, размешчаная на беразе аднайменнага возера. У дакуменце, які датуецца 1402 г., згаданы Дрысвяцкі замак. Гісторыя паселішча яшчэ больш старажытная. Археалагі ўстанавілі, што ў ХІ – ХІІІ стст. Дрысвяты былі гарадскім паселішчам Полацкага княства. Дарэчы, тут знойдзены такія рэдкія прадметы, як пісала, шахматная фігурка, прадметы з надпісамі, крыжы-энкалпіёны.

Багатай гісторыі паселішча прысвечаны гістарычны зборнік "Браслаўскія сшыткі", які некалькі гадоў назад выпусціла Браслаўскае краязнаўчае таварыства.



1 верасня Браслаўскае музейнае аб'яднанне правяло Свята рамёстваў. Імпрэза адбывалася на пляцоўцы Музея традыцыйнай культуры. У праграме свята, якое, дарэчы, праводзілася ўпершыню, былі прэзентацыі народных майстроў, выступленне тэатра гульні з Браслава "Лёлі", конкурс кветкавых кампазіцый, развучванне народных гульняў і танцаў. Упрыгожаннем свята стала выступленне вядомага гурта з Мінска "Стары Ольса".



4 верасня ў цэнтры Браслава адчыніўся новы прыватны рынак. Першы тыдзень гандлёвыя месцы ў ім прадастаўляюцца прыватным гандлярам бясплатна. Стары дзяржаўны рынак зараз пустуе. Як далей будуць ужывацца два рынкі ў невялічкім Браславе, пакажа час.



Калектыў аматараў жывой археалогіі пры Браслаўскім музейным аб'яднанні быў удзельнікам фэсту сярэднявечнай культуры "Заслаўскі набат", які адбыўся 7-8 верасня ў Заслаўі.



11 верасня ў Музеі традыцыйнай культуры адкрылася выстава вядомага беларускага графіка, народнага мастака Беларусі, лаўрэата шматлікіх прэмій Георгія Паплаўскага "Браслаўскі дзённік". Мастак даўно ўжо падоўгу працуе на Браслаўшчыне, падтрымлівае цесныя сувязі з музеем. Новы цыкл Г.Паплаўскага вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі. На адкрыцці выставы прысутнічаў сам мастак.

# БАРЫСАВЫ КАМЯНІ:
## загадкавыя госці з мінулага

> Камень – камель часу: усё іншае ў параўнанні з ім зменлівае і нетрывалае. І кожны раз, калі жыццё распачынаецца нанова, яно распачынаецца не ab ovo (з яйка), а з каменя.
>
> *Алесь Разанаў*

Барысавы камяні вядомы толькі ў Беларусі. Арэал іх распаўсюджвання супадае з тэрыторыяй колішняга Полацкага княства, калыскі беларускай дзяржаўнасці. Гэта, як правіла, унушальных памераў валуны, на якіх высечаны крыжы і надпісы. У большасці выпадкаў у надпісе ўтрымліваецца імя Барыс. Гісторыкі звязваюць яго з полацкім князем Барысам Усяслававічам, які мог уладарыць са жніўня 1127 года па 1128 год. Паводле летапісных звестак вядома, што ў 1128 годзе ў Полацкім княстве лютаваў голад, выкліканы неўраджаем. Магчыма, у гэты страшны час і загадаў полацкі ўладар на вялізных адметных валунах высечы крыжы і словы-заклінанні: "Господи помози рабу своему Борису". Але гэта толькі версія, прычым яна не адзіная. Паводле іншых меркаванняў, велізарныя валуны ў дахрысціянскі перыяд выкарыстоўваліся язычнікамі для абрадаў – да іх прыносілі дары, складалі ім ахвяры. З мэтай барацьбы з перажыткамі паганства князь Барыс мог загадаць "пераабсталяваць" паганскія святыні ў хрысціянскія. Дарэчы, зварот-заклінанне "Господи помози рабу своему..." прыйшоў на славянскія землі з Візантыі і быў вельмі папулярны на Русі. Выказваліся таксама думкі, што Барысавы камяні звязаны нейкім чынам з суднаходствам, гандлёвымі шляхамі. Нехта бачыў у іх памятныя знакі князя, межавыя адзнакі. Версій шмат, самі ж камяні моўчкі захоўваюць сваю таямніцу.



Камень каля вёскі Накоўнікі

Колькі існавала Барысавых камянёў, нікому невядома. У літаратуры захаваліся звесткі пра сем, пяць з якіх знаходзіліся ў рэчышчы Заходняй Дзвіны – важнейшай суднаходнай артэрыі Полацкага княства. Даследчыкамі была прынята нумарацыя Барысавых камянёў. Першы нумар замацаваўся за каменем каля вёскі Падкасцельцы ў ваколіцы Полацка. На ім высечаны чатырохканцовы крыж на Галгофе і надпіс: "Иисус Христос. Господи помози рабу своему Борису". Ажно тры камяні знайшлі каля горада Дзісны. Іх так і называлі – Дзісенскія Барысавы камяні, а паводле агульнай нумарацыі – другі, трэці, чацвёрты. Другі Барысаў камень знаходзіўся каля вёскі Накоўнікі. Яго аздаблялі крыж на аднаступеньчатай Галгофе



Камень каля вёскі Балоткі

# ВЕСТКІ

Калектыў аматараў эксперыментальнай археалогіі пры Браслаўскім музейным аб'яднанні браў удзел у Біскупінскім археалагічным фестывалі, які адбыўся 14-22 верасня. Фестываль у Біскупіне (Польшча) лічыцца адным з буйнейшых у Еўропе. За дні працы яго наведала каля 80 тыс.чалавек. Удзельнікамі фестываля былі спецыялісты з Польшчы, Венгрыі, Літвы, Германіі, Францыі. Браслаўская дэлегацыя арганізавала экспазіцыю "Крывіцкае паселішча", дзе былі прадстаўлены розныя тэхналогіі даўніх рамёстваў. У складзе дэлегацыі працаваў кіраўнік вядомага ў Беларусі гурта сярэднявечнай музыкі "Стары Ольса" Зміцер Сасноўскі, які дэманстраваў даўнія музычныя інструменты.



22 верасня ў Браслаўскім раённым Доме культуры адбыўся агляд калектываў, дзе захапляюцца вывучэннем польскай мовы – "Агляд польскай песні". Рэгіянальны фестываль Браслаўшчыны прадстаўлялі калектывы з Друі, Відз, Слабодкі, Дрысвят і Браслава. Адкрыццё агляду здзейсніў касцельны хор пад кіраўніцтвам І.Сапун. На імпрэзе прысутнічаў консул Рэспублікі Польшча ў Беларусі Анджэй Бучак, госці з Польшчы (7 чалавек) і Швецыі (3 чалавекі). Пераможцаў у конкурсе не было, аднак усе ўдзельнікі атрымалі каштоўныя падарункі: наручныя гадзіннікі, магнітафоны, відэа і шмат чаго іншага. Некаторыя ўдзельнікі атрымалі папярэдняе запрашэнне на фестываль у Марангова (Польшча).



5 кастрычніка ў в.Урбаны адбудуцца ўрачыстасці з нагоды адкрыцця новага будынка каталіцкага касцёла. У 30 – 40-я гады тут існаваў драўляны храм, разбураны пры савецкай уладзе. Касцёл у Урбанах узведзены з цэглы. Ён стаў 16-м каталіцкім храмам на Браслаўшчыне. Яшчэ адзін касцёл узводзіцца ў в.Ахрэмаўцы на месцы, дзе ў XVIII – першай палове XX стст. існавала палацавая капліца маёнтка Бяльмонты.



На агульным паседжанні навуковай рады Браслаўскага музейнага аб'яднання і Браслаўскага краязнаўчага таварыства прынята рашэнне аб правядзенні ў красавіку ці траўні 2003 года шостай навукова-краязнаўчай канферэнцыі "Браслаўскія чытанні". На гэты раз канферэнцыя будзе прысвечана 150-й гадавіне з дня нараджэння знакамітага браслаўскага лекара Станіслава Нарбута (1853 – 1926 гг.). С.Нарбут быў вядомы не толькі як лекар, але і актыўны грамадскі дзеяч, заснавальнік у Браславе дабраахвотнай пажарнай дружыны і некаторых іншых грамадскіх арганізацый. Па хадайніцтву Браслаўскага музейнага аб'яднання Міністэрства сувязі Беларусі падрыхтуе да юбілея мастацкі канверт з арыгінальнай маркай.

і надпіс, падобны на надпіс першага каменя. Трэці Барысаў камень, выяўлены каля вёскі Балоткі, быў самым вялікім. На паверхні выразна вылучаўся шасціканцовы крыж на шлемападобнай Галгофе і надпіс. Чацвёрты камень адрозніваўся невялікім памерам і непадобным на іншыя надпісам: "Сулибор хрест". Некаторыя даследчыкі лічылі, што гэты камень не адносіцца да Барысавых, што знакі на ім былі высечаны пазней. Не ўдаваючыся ў падрабязнасці, адзначым, што імя Барыс на чацвёртым камені адсутнічае. Пятым дзвінскім Барысавым каменем лічыўся Друйскі – герой гэтага нумара.



**Чацвёрты Барысаў камень - «Сулибор хрест»**

Два Барысавых камяні выявілі ўдалечыні ад Заходняй Дзвіны. Адзін з іх – у Аршанскім раёне (па-другому яго называюць Рагвалодаў). Ён быў, напэўна, самым прыгожым. У цэнтры размяшчаўся крыж на Галгофе, па кругу ішоў надпіс: "В лето 6679 (1171 г. - Рэд.) мая в 7 день доснен крест сей Господи помози рабу своему Василию в крещении именем Рогволоду сыну Борисову..." Кідаецца ў вочы, што і гэты камень, высечаны ў XII ст., не можна звязаць з Барысам Усяслававічам. Сёмы Барысаў камень каля вёскі Высокі Гарадзец Талачынскага раёна цалкам адпавядаў вызначэнню, на ім меўся васьміканцовы крыж і надпіс: "Господи помози рабу своему Борису." Выдатны гісторык Аляксей Сапуноў адносіў да Барысавых камянёў валун да беразе ракі Віліі, апісаны графам К.Тышкевічам. Праўда, Тышкевіч не заўважыў на паверхні літар. А.Сапуноў жа адзначыў шэраг літар, якія ўяўляюць рэшткі традыцыйнага заклінання аб дапамозе Барысу. Даследчык датуе крыж і надпіс XII стагоддзем. У сучаснай літаратуры гэты камень да Барысавых не адносіцца.



**Рагвалодаў камень**

Мясцовыя жыхары з павагай адносіліся да валуноў са старажытнымі знакамі, захоўвалі пра іх легенды, паданні, надзялялі надзвычайнымі ўласцівасцямі, часам абагаўлялі. Над Рагвалодавым каменем, напрыклад, двойчы ўзводзілі хрысціянскія капліцкі, капліца стаяла і над каменем у Талачынскім раёне. Зафіксавана шмат лакальных назваў гэтых помнікаў: Барыс, Барыс-Хлебнік, Пісар, Пісанік, Барыс-Глеб, Барысаглебскі і г.д.

Барысавымі камянямі цікавіліся многія выдатныя даследчыкі XIX – XX стст.: А.Ляпёхін, А.Плятэр, К.Тышкевіч, Т.Нарбут, А.Сапуноў, Б.Рыбакоў, К.Шміт, А.Семянтоўскі, Е.Раманаў, Н.Варонін і іншыя. Бібліяграфія аб пісаніках XII ст. – гэта дзесяткі публікацый у кнігах, энцыклапедыях, даведніках, перыядычных выданнях. Дзякуючы гэтаму, да ўнікальных камянёў была прыцягнута ўвага грамадскасці. Яшчэ на пачатку XIX ст. прадпрымаліся захады па іх захаванню. На жаль, іх аказа-

лася недастаткова і на працягу XIX – XX стст. большасць валуноў з надпісамі загінула. У 1818 годзе ў ходзе прац па расчыстцы рэчышча Заходняй Дзвіны спрабавалі ўзарваць камень каля вёскі Накоўнікі. Ад камлыгі адваліўся фрагмент з літарамі. У пачатку XX ст. знік Рагвалодаў камень. У гады савецкай улады былі ўзарваны два дзісенскія камяні і валун у Талачынскім раёне – ішла татальная вайна з рэлігійнымі перажыткамі. Больш шчасліва склаўся лёс у двух Барысавых камянёў. У 1887 – 1888 гадах валун з надпісам "Сулибор хрест" быў выцягнуты з ракі і адпраўлены ў распараджэнне Маскоўскага гістарычнага музея. Цяпер яго можна ўбачыць на тэрыторыі культурнага запаведніка "Каломенскае". Ацалеў таксама першы Барысаў камень каля вёскі Падкасцельцы. Яшчэ ў 1889 годзе яго меркавалі перацягнуць у Полацк і ўстанавіць на адной з плошчаў. У аперацыі прымалі ўдзел сотні людзей, але зварушыць валун з месца не ўдалося. У 1981 годзе магутная сучасная тэхніка дапамагла рэалізаваць гэты план. Камень быў устаноўлены ля сцен легендарнай Сафіі. Цяпер першы Барысаў камень – адна са славутасцей старажытнага Полацка.

Друйскі жа камень ціхенька ляжаў сабе ў сутоцы Друйкі і Дзвіны. У XX ст. даследчыкі чамусьці абыходзілі яго ўвагай, а пазней высветлілася, што валун знік. Так, Друйскі Барысаў камень трапіў у "спісы прапаўшых без звестак", стаў напаўлегендарным.

Аднак "спіс зніклых без вестак" – гэта не канчатковы прысуд лёсу. Калі моцна верыць, мажліва вяртанне.

Так сталася і з Друйскім каменем.

*(Пры напісанні матэрыялу скарыстаны артыкул Людмілы Дучыц "Барысавы камяні".)*



**Барысаў камень каля Полацкай Сафіі**

# З ГІСТОРЫІ ДРУЙСКАГА БАРЫСАВА КАМНЯ

Старажылы, якія яшчэ памятаюць першую трэць XX стагоддзя, згадваюць, што камень, які ўсе называлі Спасаўскі, Спаскі, Спаса, – ляжаў амаль насупраць драўлянай Спасаўскай царквы, што ўзвышалася на краі стромкага схіла да ракі Друйкі. Крыж і літары звязвалі з царквой. Цемнавата–буры валун добра награваўся пад летнімі сонечнымі промнямі і на ім было надзвычай прыемна паляжаць пасля купання. Камень ветліва падстаўляў свой бок і рыбакам, якія знаходзілі тут выгадную пазіцыю. Ніхто не змог успомніць, каб хтосьці ў мястэчку называў камень Барысавым і ведаў пра яго каштоўнасць.

> Я вучу камяні быць людзьмі.
> Я іх прасвятляю сабою.
> Дзень, калі яны адкрываюцца мне, – мой скарб.
> Дзень, калі яны закрываюцца ад мяне, – чорны.
>
> ***Алесь Разанаў***

Друйскі Барысаў камень быў адкрыты апошнім - толькі ў канцы XIX ст. Гэта акалічнасць здаецца дзіўнай, бо валун знаходзіўся не ў якім дзікім урочышчы, а ў межах паселішча, якое ў XVII – XVIII стст. з'яўлялася горадам з Магдэбургскім правам, а ў XIX – пачатку XX стст. гэты статус не згубіла. У пачатку XX стагоддзя Друя мела звыш 5 тысяч жыхароў. У Друі было шмат хрысціянскіх храмаў, некалькі манастыроў, а значыць, была праслойка адукаваных людзей. Тым не менш, даўнія крыніцы пра камень маўчаць. Не выявілі Друйскі пісанік і падчас спецыяльных росшукаў, прадпрынятых на Заходняй Дзвіне ў пачатку XIX стагоддзя. Не падказалі пра Барысаў камень мастаку і археолагу з Масквы Дз.Струкаву, які старанна вышукваў даўнія сляды праваслаўя падчас экспедыцыі 1864 года. У Друі ён уважліва даследваў усе храмы і зрабіў 14 замалёвак. У рэшце рэшт, адкрывальнік каменя – Аляксей Сапуноў – таксама звярнуў увагу на тое, што мясцовыя жыхары нічога не ведалі аб камені. Такім чынам, А.Сапуноў у сярэдзіне 90-х гадоў, калі ён апынуўся ў Друі, адчуў сябе сапраўдным адкрывальнікам. Замалёўка валуна з крыжам і надпісам была змешчана даследчыкам у кнізе "Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии" (Віцебск, 1896 г.). У нарысе пра Друю і яе помнікі Сапуноў напісаў: *"...В Друе на самом берегу Двины, сажнях в 50 ниже впадения в неё реки Друйки насупротив Спасской церкви находится Борисов камень. Замечательно, что о кресте с надписью на этом камне до сих пор решительно никто не знает даже в самой Друе, правда, и мне удалось разобрать только часть надписи, попытки сфотографировать надписи удались не вполне, так как камень сильно выветрился. Камень, красноватый валун в окружности более 11 аршин, нижняя часть его отколота, весной и осенью камень совершенно покрывается водой. Шестиконечный крест расширяется к концам, длиной 1 аршин 12 вершков (аршын – 0,7112 м, вяршок – 0,04445 м), надпись ІС. ХС НИКА ГИ ПоМОЗИ РАБУ (СВ)ОЕМУ ... далее я не мог ничего разобрать, хотя следы букв несомненны. Форма креста, характер букв надписи на друйском камне совершенно такие же, как на других так называемых Борисовых камнях, а потому изсечение креста и надписи без*

*сомнения следует приписать тому же Борису, князю полоцкому, скончавшемуся в 1128 г.".*

Цікава і тое, што пасля А.Сапунова Друйскі камень не асабліва зацікавіў даследчыкаў. У гістарычных працах XX ст. знаходзім толькі згадкі аб ім. Гісторык Дз.Даўгялла ў працы "Друя заштатный город Виленской губернии" (1907 г.), скарыстаў звесткі аб пісаніку для падмацавання развважанняў аб заснаванні паселішча ў раннім сярэднявеччы:

"...*Уцелевший в Друе на самом берегу Двины саженях в 50 ниже впадения в неё реки Друйки, напротив Спасской церкви, камень с славянской надписью "Господи помози рабу своему..." и с изображением креста, вполне ручается за то, что здесь было гораздо ранее известно влияние славяно-русских стихий...*"

Сапраўды, Барысаў камень з'яўляецца сведчаннем старажытнасці Друі, па пісьмовых крыніцах вядомай толькі з канца XIV ст. Многія даследчыкі выказваюць меркаванне, што паселішча ўзнікла хутчэй за ўсё ў часы Полацкага княства, аднак доказаў гэтаму яшчэ не знойдзена, за выключэннем валуна са знакамі XII ст.

Напрыканцы 20-х гадоў у Друі працавала экспедыцыя польскіх даследчыкаў архітэктуры і мастацтва пад кіраўніцтвам Ст.Лорэнца. Знакаміты фатограф Ян Булгак, які ўваходзіў у склад экспедыцыі, зрабіў фотаздымак Барысавага каменя. Гэты фотаздымак быў адшуканы ў Гістарычным архіве Літвы ў Вільні супрацоўнікамі Браслаўскага музея. На фотаздымку даволі выразна бачны крыж, асобныя літары, а яшчэ – скразная трэшчына ў верхняй частцы валуна. Фотаздымак вельмі дапамог пры вызначэнні валуна ў гэтым годзе.

## АЛЯКСЕЙ САПУНОЎ (1851-1924)



Адкрывальнік Друйскага Барысавага каменя быў выдатным гісторыкам, архівістам, буйнейшым даследчыкам мінулага Віцебшчыны.

Нарадзіўся ў мястэчку Усвяты Віцебскай губерні, вышэйшую адукацыю атрымаў на гістарычна-філалагічным факультэце Санкт-Пецярбургскага універсітэта. Працаваў пераважна ў Віцебску – настаўнікам старажытных моў гімназіі, архіварыўсам старажытных актавых кніг Віцебскай і Магілёўскай губерняў, сакратаром Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта, прафесарам Віцебскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута, выкладчыкам Віцебскага педінстытута. Некалькі гадоў чытаў лекцыі ў Маскоўскім універсітэце. Вольны час аддаваў гістарычным даследванням і здолеў зрабіць надзвычай многа. Толькі за перыяд 1883–1893 гадоў А.Сапуноў апублікаваў 4 тысячы кніжных старонак. Галоўнай працай гісторыка стала шматтомнае выданне "Віцебская даўніна" (пабачылі свет толькі I, IV і V тамы з плануемага шасцітомніка). У гэтым выданні ўтрымліваецца матэрыял, які датычыцца і Браслаўшчыны. Акрамя таго, матэрыялы аб Браслаўшчыне ёсць у такіх кнігах даследчыка як: "Матэрыялы па гісторыі і геаграфіі Дзісненскага і Вілейскага паветаў Віленскай губерні" (1896 г.), "Рака Заходняя Дзвіна" (1893 г.).

А.Сапунова вельмі цікавілі Барысавы камяні, увогуле – камяні са старажытнымі знакамі. У 1890 годзе выйшла яго праца "Дзвінскія ці Барысавы камяні", у якой падрабязна апісаны ўсе вядомыя на той час пісанікі. Неўзабаве А.Сапуноў стаў адкрывальнікам каменя каля Друі.

А.Сапуноў з'яўляўся сапраўдным і ганаровым сябрам больш 13-ці навуковых таварыстваў у Расіі і за мяжой.

У 1934 г. выйшла салідная манаграфія выдатнага даследчыка гісторыі Браслаўшчыны Отана Гедэмана "Дзісна і Друя, магдэбургскія гарады". Аўтар некалькі гадоў пры падрыхтоўцы кнігі жыў у Друі і напэўна бачыў пісанік, але значнай увагі валуну не надаваў. Камень згаданы ў манаграфіі, як сведчанне больш даўняй гісторыі паселішча.

Звесткамі А.Сапунова аб Друйскім камені скарысталіся даследчыкі В.Тарановіч (1946 г.) і акадэмік Б.Рыбакоў. Але сам камень цікавасці навукоўцаў больш не выклікаў. Да таго ж ён па-простату знік з вачэй людскіх. Дзесьці



**Друйскі Барысаў камень.**
***Фотаздымак Яна Булгака***

ў сярэдзіне 30-х гадоў валун быў сцягнуты ў рэчышча Друйкі. Падрабязнасці расказалі старыя людзі. Непадалёку ад каменя знаходзіўся чыгуначны мост, перакінуты праз Друйку. Берагі ў гэтым месцы высокія, а даліна вузкая. Увесну каля моста часам збіралася вялізная колькасць рачнога лёду. У асобных выпадках лёд узрывалі, каб крыгі не пашкодзілі мост. Пасля адной моцнай серыі выбухаў магутнасць лядовай лавіны, што шуганула ўніз, аказалася настолькі вялізнай, што шматтонны камень, не крануты на працягу тысячагоддзяў, быў перакулены і скінуты ў больш глыбокае месца. Валун стаў палоннікам рачных хваляў і пясчаных наносаў.

Лёсам Друйскага каменя ніхто спецыяльна не займаўся, у некаторых публікацыях яго залічылі да загінуўшых. Правесці асобнае даследванне здагадалася археолаг Людміла Дучыц. Пошук каменя праводзіўся ў 1982 – 1984 гадах. Вынікі гэтага даследвання абнадзейвалі. Стала зразумела, што каштоўны валун нікуды не знік: яго трэба шукаць у тым месцы, дзе ён стаяў спрадвеку. Вялікую дапамогу па лакалізацыі пісаніка Л.Дучыц аказалі мясцовыя жыхары Франц Мазураў, Аляксандр Чапінскі. У пошуках удзельнічалі аквалангісты-аматары з Дзяржаўнага музея Беларусі і спартыўна-тэхнічнага клуба МТЗ. Пад вадой прагледжвалася вялікая камлыга, але большая яе частка аказалася занесенай пяском. Даследвалі кожны квадратны сантыметр паверхні – але не знайшлі



**Замалёўка каменя са справаздачы Людмілы Дучыц**

ніводнай літары. Абмежаванасць у сродках не дазволіла нават распачаць працы па выцягванню валуна з вады. Загадка Друйскага каменя не была разгадана. 27 снежня 1984 года газета "Браслаўская звязда" надрукавала артыкул Л.Дучыц, які так і называўся: "Адна з Друйскіх таямніц".

У 80-я гады пачаліся падрыхтоўчыя працы па ўзвядзенню плаціны Даўгаўпілскай ГЭС. Пад'ём вады ў Заходняй Дзвіне планаваўся ажно да Полацка, у раёне Друі ён мог быць некалькі метраў. Барысаў камень у такім выпадку знікаў назаўсёды.

Актывізаваць працы па выяўленню Барысавага каменя спрабавалі ў 1986 годзе супрацоўнікі Браслаўскага музея (у гэты час ішла праца па стварэнню экспазіцыі). Кансультантам выступала Л.Дучыц – сябра музея ад часу яго заснавання. Захады музея знайшлі падтрымку з боку раённых улад. Працы праводзіліся некалькі летніх сезонаў. Аднак яны ўскладняліся высокім узроўнем вады. Хуткаплынная рака змяняла характар дна і часам аквалангісты гублялі ранейшыя арыенціры. Па ацэнцы спецыялістаў валун мог важыць 20 – 40 тон. У Мінску на адным з прадпрыемстваў пачалі рыхтаваць спецыяльную аснастку для транспарціроўкі каменя, была дасягнута дамоўленасць аб прыцягненні цяжкой тэхнікі. Меркавалася перавезці валун у Браслаў і ўстанавіць перад фасадам гісторыка-краязнаўчага музея. Мастакі нават уключылі Барысаў камень у план афармлення музейнай тэрыторыі. Давесці справу да канца не ўдалося. Спачатку не хапала сродкаў, а пазней краіна ўступіла ў фазу крызіса – стала не да культуры. Адхілены былі, праўда, і планы ўзвядзення плаціны ля Даўгаўпілса.

Матэрыял пра Друйскі Барысаў камень быў уключаны ў экспазіцыю музея, аб ім згадвалі розныя даведнікі і публікацыі, падрыхтаваныя музеем, у тым ліку кніга "Памяць".

Друйская таямніца не пакідала ў спакоі амаль 15 гадоў. Камень чакаў свайго часу.

***Кастусь Шыдлоўскі,*** навуковы супрацоўнік Браслаўскага музейнага аб"яднання

# ВЯРТАННЕ ДРУЙСКАГА КАМЕНЯ

## *Як гэта было*

Зямля паклалася на ваду
Вада паклалася на паветра
Паветра паклалася на агонь
Агонь паклаўся на думку
А з думкі выйшаў у век чалавек
І выпаў у вечнасць камень
***Алесь Разанаў***

Правядзенню прац па выяўленню і перамяшчэнню Друйскага Барысавага каменя садзейнічала спякотнае сухое лета. Узровень вады ўпаў настолькі, што Заходнюю Дзвіну каля Друі можна было б перайсці ўброд, калі б не дзяржаўная мяжа, а Друйка ўвогуле бруілася плыткім струменьчыкам. Захоплены ў рачны палон валун выглянуў на паверхню, нібыта просячы паратунку. Гэты акрайчык каменя ўбачыла ў вадзе Людміла Шумчык, старшыня пассавета. Аднак убачыла не выпадкова: спецыяльна паехала агледзець вусце ракі, – бо неаднойчы чытала аб каштоўным камені.



Пасада старшыні надзвычай клапатлівая: у жыхароў пасёлка процьма бытавых і жыццёвых праблем – да старшыні ідуць і па параду і па дапамогу. Здавалася б: не да камянёў. Аднак энергічная, няўрымслівая Людміла Шумчык так не лічыла. Ход думак быў іншым: па-першае, Барысаў камень з'яўляецца каштоўнейшым помнікам і трэба зрабіць усё, каб выратаваць камень; па-другое, камень стане славутасцю Друі і гэта паспрыяе хоць неяк прыцягненню ўвагі да гібеючага пасёлка і яго праблем.

Людміла Шумчык звярнулася за кансультацыяй у музей. У другой палове ліпеня бягучага года на беразе Друйкі адбылася невялікая нарада. Пасля аналіза сітуацыі і ўсіх даступных матэрыялаў зрабілі выснову, што, хутчэй за ўсё, з вады высоўваецца менавіта Барысаў камень. Паспрабавалі абкапаць яго, шукалі крыж, літары. Камень маўчаў. Толькі, можа быць, зыходзіла з глыбінь камлыгі нейкая патаемная энергетыка, якую адчуваеш душой. Аднак напэўна, што гэта толькі падавалася, бо хацелася верыць у цуд. Для таго, каб адкрыць таямніцу каменя, трэба было паспрабаваць выцягнуць яго з ракі. Без людзей, без тэхнікі тут не абысціся. У мэра невялікага пасёлка не так і многа ўладных магчымасцей. Людміле Шумчык давялося прасіць, пераконваць распарадчыкаў магутнай тэхнікі. Хтосьці дапамагаў шчыра і ахвотна, хтосьці захапляўся справай паступова, а хтосьці да канца заставаўся скептычным назіральнікам: маўляў, знайшлі справу сабе – іншых няма. Скептыкі ёсць заўсёды, але будучыня не за імі. Прагрэс рухаецца дзякуючы тым, каму болей трэба, дзякуючы тым, хто думае не толькі аб наземным, але і аб вечным. І яшчэ – поспех прыходзіць да няўрымслівых, дапытлівых, неабыякавых.

Ніхто, напэўна, не меркаваў, што праца зацягнецца не на адзін месяц: мінулі ліпень, жнівень, верасень, заканчваўся кастрычнік. Ужо ў кастрычніку давялося падслухаць размову двух жыхароў Друі, якія назіралі за працай: "Зацягнулі да восені, летам трэба было рабіць". Але хто ведае, якой цаной давалася кожная спроба, як перажывалася кожная няўдача. Спытайцеся ў Людмілы Шумчык. У распараджэнне музея яна прадаставіла запісы, з якіх бачна храналогія працы па перасоўванню каменя. Мы вырашылі надрукаваць яе амаль без змен.

***22 жніўня, чацвер*** *камень адкопвалі ўручную; працавалі жыхары Друі.*

***26 жніўня, панядзелак*** *спрабавалі выцягнуць фрагмент каменя; працаваў трактар дзетдома, трактарыст – Іван Іванавіч Шчаблінскі; дапамагалі: Аляксандр Уладзіслававіч Зайкоўскі, Іван Іванавіч Лук'янец, Мар'ян Віктаравіч Шумчык, Міхаіл Канстанцінавіч Чапінскі, Віктар Канстанцінавіч Мізер, Анатоль Іванавіч Шчаблінскі; кавалак адсунуўся на 5-10 см, шчыліна пашырылася, аднак тросы не вытрымлівалі; спроба закончылася няўдачай.*



***28 жніўня, серада*** *другая спроба выцягнуць фрагмент валуна; працаваў трактар дзетдома (І.І.Шчаблінскі) і трактар сярэдняй школы, трактарыст – Міхаіл Аляксандравіч Радзіёнаў (прывёз тоўсты трос); дапамагалі: М.В.Шумчык, А.У.Зайкоўскі, І.І.Лук'янец, А.І.Шчаблінскі, М.К.Чапінскі; на бераг выцягнулі вялікі фрагмент, аднак надпісаў на ім не знайшлі.*

***6 верасня, пятніца*** *трыма трактарамі спрабавалі выцягнуць асноўную частку валуна; доўгі час не ўдавалася надзейна зачапіць трос; пасля абкапвання каменя рыдлёўкамі трос зачапілі, аднак валун не паддаўся; трактары не здолелі працаваць зладжана; працавалі да змяркання; трактары – дзетдома (В.К.Мізер), школы (М.А.Радзіёнаў), саўгаса "Друйскі" (Пётр Канстанцінавіч Бурак); дапамагалі: Міхаіл Лявонавіч Цыунель, А.В.Зайкоўскі, М.В.Шумчык.*

***10 верасня, аўторак*** *камень абкопвалі экскаватарам дзіцячага дома (І.І.Шчаблінскі); дапамагаў М.В.Шумчык.*

***12 верасня, чацвер*** *зноў спрабавалі цягнуць трыма трактарамі: з саўгаса "Друйскі" (Аляксандр Мікалаевіч Цімашэнка), дзіцячага дома (І.І.Шчаблінскі), школы (А.М.Радзіёнаў); дапамагалі: А.В.Зайкоўскі, Валерый Мар'янавіч Саруль; зноў няўдача; надвор'е халоднае, вада ад Дзвіны прыбывае.*



***18 верасня, серада*** *звярнуліся ў Браслаўскі музей за дапамогай; дырэктар Галіна Станіславаўна Падалян дамовілася з Канстанцінам Канстанцінавічам Сапелем, кіраўніком меліярацыйнай арганізацыі; патрэбна шмат саляркі.*

***19 верасня, чацвер*** *К.К.Сапель не змог прадаставіць тэхніку, бо яна была занята на іншых працах; звярнуліся ў УКБ да Міхаіла Часлававіча Малатка; пачалі збіраць грошы на дызпаліва; сабралі 17 тысяч добраахвотных ахвяраванняў.*

***20 верасня, пятніца*** *26 тысяч на паліва сабралі прадпрымальнікі з Браслава, Мёр, Шаркаўшчыны, якія гандлююць у Друі, 10 тысяч ахвяравалі памежнікі.*

***7 кастрычніка, пятніца*** *па ўзгадненню з М.Ч.Малатком звярнуліся да старшыні райвыканкама Уладзіміра Фёдаравіча Лакомага.*

***10 кастрычніка, панядзелак*** *працавала тэхніка дарожнай службы (трактар Т-130); няўдача; надзеі амаль не засталося; дапамагалі: М.В.Шумчык, Уладзімір Мечыслававіч Гайдзель.*

***16 кастрычніка, серада*** *зноў звярнуліся да старшыні райвыканкама.*

***18 кастрычніка, серада*** *на месца працы прыязджалі К.К.Сапель і М.Ч.Малаток.*

***21 кастрычніка, панядзелак*** *да вусця Друйкі дастаўлены меліярацыйны экскаватар.*

***22 кастрычніка, аўторак*** *спрабавалі выцягнуць асноўны валун з дапамогай лябёдкі экскаватара, экскаватаршчык – Яраслаў Лявонавіч Адамовіч; дапамагаў: М.В.Шумчык; у працах удзельнічалі два вадалазы выратавальнай станцыі з Браслава; камень удалося скрануць з месца і дацягнуць да сярэдзіны Друйкі; надпісаў не знайшлі.*

***23 кастрычніка, серада*** *на дапамогу экскаватару прыйшоў гусенічны трактар дзетдома (І.І.Шчаблінскі); дапамагалі: М.В.Шумчык, Аляксандр Сінкевіч; камень падцягнулі да берага, сталі бачны фрагмент крыжа і літары; валун перацягнулі на высокі бераг, дзе ўжо знаходзіўся дробны фрагмент.*

***24 кастрычніка, чацвер*** *выцягнулі трэці, самы маленькі фрагмент каменя; удзельнічалі два вадалазы Браслаўскай выратавальнай станцыі.*

Велізарная ўдзячнасць усім, хто ўдзельнічаў у працы, хто садзейнічаў поспеху. Акрамя вышэйзгаданых, гэта – Аляксандр Барысавіч Варашэнь, дырэктар Друйскага дзіцячага дома; Васіль Васільевіч Мятла, дырэктар Друйскай СШ; Станіслаў Іосіфавіч Радзевіч, дырэктар саўгаса "Друйскі"; Артур Мікалаевіч Картышаў, Таццяна Трафімаўна Мінкевіч. Асобная ўдзячнасць Аляксандру Чапінскаму, які кожны дзень прыходзіў на бераг ракі падчас працы. Ён памятаў камень з маленства і быў вельмі рады яго вяртанню. Удзячнасць усім жыхарам Друі, якія не былі абыякавымі да нашых намаганняў і маральна падтрымлівалі нас. Давялося стаць сведкам паспяховага завяршэння працы 22-23 кастрычніка. Позняя восень, нізкае свінцовае неба, вецер, сцюжа, дождж, які змяніўся снегам, – вось умовы надвор'я ў гэтыя дні. 22 кастрычніка разам з экскаватаршчыкам і вадалазамі прыехалі з Браслава на машыне супрацоўніка музея Аляксандра Курбана. Наладжваецца

лябёдка, зачэпліваецца трос – можна спрабаваць, але экскаватар рухаецца да каменя, а не наадварот. Камлыга нібыта назаўсёды ўрасла ў пясок. Яшчэ спроба. Зноў экскаватар цягнецца да каменя.

Раптам над вадой прыўзнялася цёмная маса. Камень падаўся! Праца ідзе надзвычай марудна, да змяркання камень пасунулі толькі на некалькі метраў. Тым не менш, на паверхні амаль увесь камень. Ні крыжа, ні літар знайсці не ўдалося. Вярталіся ў Браслаў у аптымістычным настроі. У сераду, 23 кастрычніка, праца пачалася толькі каля абеда. Нават два трактары з вялікай цяжкасцю спраўляліся з нагрузкай. Шматтонная глыба павольна рухалася да берага, паступова перакульваючыся на другі бок. Побач з каменем толькі самыя нецярплівыя. Мар'ян Шумчык абчышчае бруд і першым заўважае штосьці незвычайнае. Праз хвіліну бачаць усе – фрагмент крыжа, літары. Сумненняў няма – гэта Барысаў камень. На гадзінніку $13^{40}$. Спюжа ўжо не заўважаецца. Праца цягнецца да змяркання: за гэты час з вялікай цяжкасцю камень падымаюць на пляцоўку высокай рачной тэрасы. Паставілі валун крыжом да неба – тут ён будзе стаяць да наступнага года. Найлепшае месца для помніка, лічыць Л.Шумчык, – цэнтральная плошча, былы Рынак.



У чацвер, 24 кастрычніка, пра Друйскую знаходку мне паведаміла інфармавацца ўдзельнікаў канферэнцыі "Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі", якая праходзіла ў Полацку. Паведамленне выклікала вялікую цікавасць сярод навукоўцаў.

**К.Ш.**

# КАМЕНЬ-ВОЛАТ ЛЯ ВЁСКІ ЛАТОЧКІ

## ХРОНІКА АДКРЫЦЦЯ

*Экспедыцыі, пошукі, знаходкі*

23 лістапада 2002 года сумесная экспедыцыя краязнаўцаў Грытунскай і Канстлінскай школ абследвала вялізную камлыгу ў ваколіцах в.Латочкі. Устаноўлена, што даўжыня каменя 6,8 м – гэта буйнейшы валун на Браслаўшчыне і чацвёрты ў Беларусі. У дадатак – з ім звязана вельмі цікавая легенда. Да гэтага часу буйнейшым на Браслаўшчыне лічыўся валун ля в.Мілашы Ахрэмаўскага сельсавета. Яго даўжыня – 4,8 м.

Пачатак шляху.

Кожная з 2-х школ ішла да гэтага адкрыцця сваім шляхам. Грытунскія школьнікі старанна збіралі легенды, тут яны і выйшлі на вялізную камлыгу ля мясціны "Лысыя горы". Інфармацыю нават падалі ў ЦДТ і краязнаўчы музей. Канстлінцы ў свой час атрымалі заданне ад Інстытута геалагічных навук: шукаць рэдкія валуны і формы рэльефа. Абследаваўшы свае ваколіцы, знайшлі некалькі цікавых экзэмпляраў, захапіліся і працягнулі сваю працу па ўсёй тэрыторыі раёна.

Спіс К.Шыдлоўскага.

Колькі год назад аўтару давялося наведаць краязнаўчы музей г.Вілейкі. Загадчыца, якая вяла экскурсію, даведаўшыся, што мы з Браслава, выдала доўгую хвалебную оду Браслаўскаму музею. Канцоўка тырады насіла значэнне: "Куды нам да браслаўскіх хлопцаў". Так, браслаўскім краязнаўцам пашанцавала: у нас ёсць музей з кваліфікаванымі і зацікаўленымі супрацоўнікамі.

І вось, калі ўзнікла жаданне даследваць цікавыя валуны Браслаўшчыны, мы звярнуліся ў музей, да Шыдлоўскага Кастуся. Нашы надзеі спраўдзіліся: у гаспадара была спецыяльная тэчка, куды ён складваў цікавую інфармацыю аб валунах. Нас цікавілі ў першую чаргу яшчэ недаследаваныя асобнікі і спадар Кастусь склаў для нас спіс з 8-мі мясцін. Гэта папера ўжо другі год і водзіць па раёну юных геолагаў з Пагошчы.

Пяты нумар.

К восені 2002 года дайшла чарга і да грытунскага каменя з легендай. Дарэчы, легенды – каштоўная крыніца па гісторыі рэгіёна. Часцей за ўсё яны звязаны са скарбамі – гэта водгукі тых часоў, калі валунам пакланяліся нашы продкі-язычнікі.

Шукаем "гаспадароў" знаходкі – грытунскіх краязнаўцаў, – дамаўляемся аб сумеснай вандроўцы. Кажанеўская Ала Браніславаўна ахвотна згаджаецца правесці нас, крыху расказвае аб камені. Яе словы аб даўжыні валуна – каля 6 м – выклікаюць бурную рэакцыю: няўжо самы вялікі на Браслаўшчыне?!. Знайсці такі вялізны камень было нашай запаветнай марай ужо другі год. Справа ў тым, што самы вялікі камень на Беларусі размешчаны ля Шуміліна (даўжыня 11 метраў), а яшчэ з 30-х гадоў XX ст. у нашых мясцінах самым буйным лічыўся асобнік у 4,8 м. Вось чаму мы з нецярпеннем чакалі дня вандроўкі.

Экспедыцыя.

Яшчэ на пад'ездзе да в.Грытуны гарэзы-сямікласнікі Аня Вейтанец і Оля Адамчык правялі папярэдняе апытанне наконт

(заканчэнне на с.11)

# Біскупін – 2002: ад Попеля да Пястаў

У верасні бягучага года калектыў аматараў эксперыментальнай археалогіі Браслаўскага музейнага аб'яднання пабываў на прэстыжным фестывалі ў Біскупіне.

Біскупін – невялічкая вёсачка ў Польшчы, размешчаная непадалёку ад ажыўленай аўтастрады Познань – Быдгошч. Яе назва стала шырока вядома з 1933 года, калі на паўвостраве Біскупінскага возера былі знойдзены сляды невядомага раней археолагам паселішча, прычым паселішча незвычайнага. У 1934 годзе тут пачаліся даследванні, якія прынеслі сенсацыйныя вынікі. Маштабы раскопак былі надзвычай шырокімі. Аб знаходках у Біскупіне неўзабаве пачала паведамляць прэса ўсёй Еўропы. З'явілася параўнанне: "Польскія Пампеі". Дзякуючы таму, што ў грунце паўвострава склаліся цудоўныя ўмовы для кансервацыі дрэва. Тут захаваліся драўляныя пабудовы і вырабы, якім амаль 3 тысячы гадоў! Такога прыкладу Еўропа яшчэ не ведала. Калі з'явіліся сучасныя дакладныя методыкі дацiроўкі драўляных вырабаў, аказалася, што дубы на асноўныя збудаванні паселішча былі высечаны ў 747 – 722 гадах да нашай эры (ранняя эпоха жалеза).



Двор Попеля. Фрагмент

Назапашаныя пакаленнямі матэрыялы дазволілі ў 70-х гадах зрабіць частковую рэканструкцыю паселішча. Аднавілі фрагменты сцен, браму. Найбольш уражвае рэканструкцыя жытлаў, якія знаходзіліся пад абаронай сцен у выглядзе радоў хат, накрытых у радзе адным агульным дахам. Калісьці паселішча налічвала 13 радоў. Адноўлены два з іх.

Біскупінскі паўвостраў і прылягаючая тэрыторыя плошчай 23 гектары, на якой знойдзены сляды іншых цікавых археалагічных помнікаў, абвешчаны заказнікам. У складзе заказніка Археалагічны музей, для якога ўзведзены сучасны цудоўны павільён з навуковымі лабараторыямі, ёсць падсобная гаспадарка, дзе гадуюцца даўнія пароды жывёл, характэрныя для дадзенага рэгіёна Польшчы, размешчана некалькі этнаграфічных аб'ектаў, прыстань прагулачнага цеплахода "Д'ябал Венецыі".

Біскупін вядомы яшчэ і тым, што тут штогод адбываюцца фестывалі эксперыментальнай археалогіі: Біскупінскі фестываль – адзін з буйнейшых у Еўропе. Традыцыйна яны праходзяць на працягу 9 дзён у сярэдзіне верасня. У аснову фестываля закладзены нібыта элементарны, аднак надзвычай дзейсны прынцып: "навучайся іграючы, а іграючы – навучайся". Кожны год вызначаецца асноўная тэма фестываля, з якой звязаны галоўныя імпрэзы. У мінулым годзе, да прыкладу, ён меў дэвіз "У цяні пірамід" і быў прысвечаны археалагічнаму даследванню Егіпта. Аднак егіпецкай была толькі афарбоўка фестываля, большая ж частка ўдзельнікаў дэманстравала заняткі і рамёствы, характэрныя для славянскіх земляў. Апошні фестываль называўся "Ад Попеля да Пястаў". Попель – гэта легендарны польскі князь, які, паводле некаторых меркаванняў, мог быць першым польскім каралём і пачынальнікам каралеўскага рода Пястаў. Верагодны час Попеля – гэта пералом 8 – 9 стагоддзяў. Паводле легенды жорсткага князя загрызлі мышы. Сімпатычная мышка ў шлеме і з мячом у руцэ стала сімвалам фестываля. Шмат яго мерапрыемстваў было звязана са здымкамі кінафільма, прысвечанага Попелю, які на тэрыторыі заказніка вяла група рэжысёра Ежы Гофмана. Можна было пазнаёміцца з дваром Попеля, узведзеным для здымачных мэт, убачыць сцэны з будучай стужкі, сустрэцца са стваральнікамі кінафільма. У асноўным усё было як заўсёды. Тэрыторыя заказніка разбіваецца на пляцоўкі, на якіх удзельнікі дэманструюць заняткі і тэхналогіі рамёстваў далёкіх продкаў. У гэтым годзе такіх пляцовак налічвалася 70. Удзельнічала каля 200 спецыялістаў не толькі з Польшчы, але і Германіі, Францыі, Літвы, Венгрыі, Чэхіі, Беларусі.

Калектыў з Браслава быў адзіным прадстаўніком Беларусі. Да гэтага два гады ў фестывалі ўдзельнічалі Валера і Эла Зінкевічы. Іх высокі прафесіяналізм забяспечыў прыезд з Браслава большай групы. Наша каманда складалася з дзевяці браслаўчан і была ўзмоцнена "варагам" з Мінска Зміцерам Сасноўскім, кіраўніком папулярнага ансамбля даўняй музыкі "Стары Ольса". Зміцер адказваў за музычны напрамак нашага калектыва. Знаёмцеся з астатнімі ўдзельнікамі: Валеры Зінкевіч – праца на архаічным ганчарным коле, выраб археалагічнай керамікі; Аляксандр Курбан – вырабы з драўніны; Людміла Пупіна – вырабы з бяросты і кары дрэў; Эла, Ганка Зінкевічы, Алена Селех – даўняя кухня; Кастусь Шыдлоўскі – даўнія спосабы пісьма; Уладзімір Невядомскі – гаспадарчыя заняткі; Альгерд і Алеся Селяхі – маленькія крывічы, будучыя ваяры. У Біскупіне мы дэманстравалі экспазіцыю "Паселішча крывічоў", якую прывязвалі па часе да XI – XIII стст, калі на землях крывічоў існавала магутнае Полацкае княства. Дзякуючы археалагічным даследванням, мы цяпер ужо даволі многа ведаем аб рамёствах, занятках, традыцыях, культуры

гэтага перыяда.

Удзел у фестывалі – найперш праца і прычым даволі інтэнсіўная. Загадзя ведалі, што наведвальнікаў звычайна бывае шмат, але іншая справа – непасрэдна сутыкнуцца з такім валам людзей. Пазней нам стала вядома, што фестываль наведала каля 80 тысяч аматараў эксперыментальнай археалогіі. Уражвала актыўнасць людзей, многа індывідуальных наведвальнікаў, сем'яў. У будніяж дні пераважалі школьныя экскурсіі. Тэрыторыя заказніка напаўнялася ордамі маленькіх, дапытлівых, усюдыісных, няўрымслівых... Як пчаліны рой, яны літаральна аблеплівалі кожную пляцоўку. Дзіцячыя дні – вялікае выпрабаванне нават для закаранелых фестывальных ветэранаў.



Крывічы Селяхі атакуюць рыцара

Калі дазваляе час і зменлівае восеньскае надвор'е, бадзяцца па фестывальнай тэрыторыі можна хоць цэлы дзень. Паглядзець ёсць на што. Пастаянна адбываліся пастановачныя баі рыцарскіх клубаў, выступалі знакамітыя калектывы даўняй музыкі. Можна было паспрабаваць навучыцца танцам, паўдзельнічаць у гульнях і забавах, пастраляць з розных даўніх прыстасаванняў, уступіць у двубой з рыцарам, аддаць сябе ў рукі ката, пакатацца на рыцарскіх конях, паплаваць на старажытнай ладдзі "Вялет", адноўленай па ўзору X ст., уласнымі рукамі выбіць манету, пакарыстацца даўнімі інструментамі і шмат-шмат яшчэ чаго. А яшчэ – глядзець на працу майстроў, якія ўзнаўлялі тэхналагічныя працэсы тысячагадовай даўнасці: выплаўку жалеза, выварку солі, выраб зброі, упрыгожванняў, паперы, гравюр. Няма сэнса ўсё пералічваць. Гэта трэба бачыць. А для гэтага трэба сабрацца ў Біскупін, ці напачатку звярнуць увагу на маленькую яго часцінку – наведаць нашу экспазіцыю падчас "Браслаўскіх зарніц" ці Свята раместваў.




**Фестывальная газета з партрэтам Ганкі Зінкевіч на вокладцы**

**Кастусь Шыдлоўскі**, *навуковы супрацоўнік Браслаўскага музейнага аб"яднання*

---

## *Трагічныя старонкі мінулага*

Падзеі апошняй сусветнай вайны, вядомыя нам пераважна з выданняў савецкіх часоў, яшчэ патрабуюць крытычнага разгляду гісторыкамі. Многае у гэтых працах падганялася пад патрабаванні партыйных ідэолагаў. Сёння згадаем адзін са спрэчных момантаў падпольнага руху на Браслаўшчыне. Шмат у якіх выданнях згадваецца эпізод аб тым, што браслаўскі юнак Мікалай Лапуза па заданню партызан падключыў да радыёсеткі станцыю з Масквы, якая перадавала навіны. Раз'юшаныя акупанты застрэлілі патрыёта. Расстрэл маладога хлопца памятаюць яшчэ старажылы, якія перажылі акупацыю. Аднак за што ён быў расстраляны? У гэтым пытанні людзі абапіраюцца ўжо на публікацыі, а не на ўласныя веды. Удакладненне наконт здарэння з М.Лапузам даслаў нам Ежы Жураўскі, які нарадзіўся ў Браславе, сведка акупацыйнага перыяду. Ежы Жураўскі жыве ў польскім горадзе Казімежы Дольным, дзе быў стваральнікам і доўгі час дырэктарам знакамітага музейнага комплекса "Надвіслянскія музеі". Падаем сведчанні Е.Жураўскага ў перакладзе на беларускую мову.

* * *

*Ежы Жураўскі, народжаны ў Браславе, жыхар горада да 1945 года.*

*У рэдакцыю зборніка "Браслаўскія сшыткі". Музей, Браслаў, Беларусь.*

*Са здзіўленнем прачытаў у першым нумары зборніка (№ 1/ 1996, с.66) інфармацыю аб "геройчным учынку" Мікалая Лапузы. Хаця мне у той час толькі 14 гадоў, дакладна памятаю трагічны выпадак з Лапузам, які страшна паўздзейнічаў на маё тады яшчэ дзіцячае ўсведамленне, узрушыў да глыбіні душы і таму адбіўся назаўсёды ў маёй памяці.*

*Пасля таго, як застрэлілі Мікалая Лапузу (мы яго ўсе ведалі па знешняму абліччу), аб гэтым шмат размаўлялі дарослыя ў маёй сям'і, а таксама нашы знаёмыя. Усе гэтыя размовы ўважліва слухаў і добра іх памятаю. Таму магу аднавіць выпадак наступным чынам.*

*Браслаўскі радыёвузел размяшчаўся ў адным з будынкаў ўрадавай калоніі (забудова Ю.Клоса ў раёне вуліцы Булойчыка – рэд.). Там дзейнічалі ванны з водаправодам – выключная рэч для Браслава. Мікалай Лапуза, які дзяжурыў на радыёвузле, вырашыў скарыстацца ваннай. Паставіў у эфір музыку і пайшоў мыцца. Неўзабаве музыка скончылася і Лапуза прыадчыніў дзверы ваннага пакоя, каб паслухаць, што перадае радыё. Пачуў нямецкую мову і спакойна вярнуўся ў ванну. Аказалася, што радыё перадавала навіны BBC з Лондана на нямецкай мове. Хлопец не ведаў мовы і не здолеў разабрацца. За гэту недарэчную і трагічную памылку Мікалай Лапуза быў адразу расстраляны па загаду немцаў, якія пачулі трансляцыю. Памятаю, што дарослыя знаёмыя маёй маці, якія ведалі нямецкую мову, чулі перадачу з Лондана, што пацверджвае маю версію здарэння.*

*Да таго ж версія выглядае лагічнай. Калі б М.Лапуза свядома ўключыў трансляцыю з Лондана па-нямецку (навошта гэта было рабіць?), ці з пачуцця патрыятызму з Масквы на рускай мове, то наўрад ці ён чакаў бы арышта і расстрэлу, а адразу ўцёк бы да партызан, спрабаваў бы схавацца.*

**(заканчэнне на с.12)**

(заканчэнне, пачатак на с.8)

валуна ў 2-х мясцовых крыху на падпітку дзядзек. Тубыльцы ведалі той камень, крыху памяталі і легенду, звязаную з валуном: "Вялікі камень! Бацька на ЗІЛе на яго заязджаў, лазню можна паставіць – такі вялікі! А закапаны пад ім човен з золатам. А ўзяць золата можна толькі садраўшы мох з валуна і засеяць зернем. Дакладна не памятаю, нешта зрабіць трэба зусім незвычайнае, каб скарб той дастаць." Што ж – інфармацыя пацвярджала нашы надзеі.

Вандроўка.

Вось і прыпынак ля вёскі Латочкі. Выходзім з аўтобуса, гаспадары – грытунскія краязнаўцы – дзелавіта шыбуюць у патрэбным напрамку. Багата зямля браслаўская на цікавыя рэчы! За паўтары гадзіны хады мы сустрэлі ссунутую меліяратарамі гранітную надмагільную пліту з разбуранага суседняга панскага маёнтка. Цікавы момант: яна мае форму 2-х паралелепіпедаў, сама пліта і выступ унізе – магчыма, каб "запячатаць" магілу і не даць магчымасць зламыснікам ссунуць убок надмагілле. Няхай даруе Бог тым, хто парушыў пакой могілак!

Яшчэ праз кіламетр – бетонныя доты часоў I сусветнай вайны: тут ішла лінія абароны германскіх войск.

З наступнай горкі адкрываецца панарама цікавага ўзгорка з прагнутай забалочанай сярэдзінай. Вельмі падобна да той пінгі, знойдзенай намі, якую Акадэмія Навук абвясціла помнікам прыроды. Трэба будзе звярнуць увагу навукоўцаў.

Вось і пакінутая вёска Сталпоўка – здзічэлыя сады, стогадовыя ліпы. Не верыцца, што колькі год таму тут бруіла жыццё. У 300 м на ўсход ад яе – наша мэта: вялізная каменная камлыга.

Ледавіковы госць.

Нам, паляўнічым за валунамі, немагчыма глядзець на знаходку спакойна: волат!.. Адкопваем засыпаныя краі, вымяраем доўгую вось... 6, 8 метра!!! Ёсць рэкорд! Здаецца, чацвёртае месца на Беларусі. Складзены горнай масіўнай вулканічнай пародай (мяркуем, базальтам) па краю – хвалі цякучай лавы. Шырыня – 4,2 м, таўшчыня – каля 2-2,5 м. Шырокая, амаль плоская пліта. Вага, па папярэдніх разліках, таксама волатаўская: каля 140 – 150 тон. Такія такія пароды сустракаюцца за тысячы кіламетраў адсюль, у Фінляндыі. Прынёс сюды гэты валун апошні паазёрскі ледавік каля 20-18 тысяч гадоў назад.

"Заклятый камень".

Мясцовы жыхар Шыкшнян К.П. распавёў нам цікавую легенду аб гэтым камені: "Жыў калісьці ў Латочках багаты пан Мілевіч. Не даў Бог яму нашчадкаў, каб перадаць багацце. І перад смерцю, каб не дасталася яно сялянам, закапаў човен з золатам пад гэтым каменем. А каб ніхто не забраў, наклаў закляцце: "Толькі той возьме мой скарб, хто выканае 3 умовы. Першая ўмова: распаліць вогнішча на Лысай гары, што побач. Другая ўмова: здзёрці з жывога каня скуру. І трэцяя ўмова: запрэгчы гэтага каня і правесці на ім вакол каменя 3 баразны. І выйдзе тады човен на свет."

Мясцовыя жыхары завуць гэтую камлыгу па-рознаму: Вількоўчскі, "Заклятый камень". Вядомы спецыяліст па валунах Ляўкоў Э.А. у сваёй кнізе "Маўклівыя сведкі мінуўшчыны" лічыць падобныя легенды водгукамі паганскіх часоў. А дырэктар Музея валуноў НАН Беларусі Вінакураў В.Ф. перакананы, што наш валун быў ахвярнікам, аб гэтым гаворыць назва мясціны – Лысая гара, ахвяра жывёлы, сам факт схаванага скарба. Таксама ён абяцаў прыехаць для больш глыбокага вывучэння. Безумоўна, што знаходка грытунскіх школьнікаў будзе аб'яўлена геалагічным помнікам прыроды рэспубліканскага значэння.

Аўтары сенсацыі.

Аўтар мае гонар перадаць глыбокую ўдзячнасць і віншаванні краязнаўчаму клубу "Зямляне" Грытунскай БШ (кіраўнік – Кажанеўская А.Б.). Вось іх імёны: Мацкевіч Я., Цыунель А., Шыкшнян Э., Стацэвіч С., Каржанеўскі А., Юркін Ю., Радзэвіч В.

Пасільную дапамогу адкрывальнікам аказалі юныя геолагі Канстанцінскай БШ: Мацук Я., Адамчык В., Войтанец Г., Данілава Н., Кончыц Л., Літвічэнка Дз., Пагада С., Раманоўскі В., Шылінскі С., Адамчык В.

**Віктар Бунта,**
*настаўнік Канстанцінскай БШ*

### ВІДУШЧЫ КАМЕНЬ

З веку ў век ляжаў ля гасцінца камень.
З веку ў век ішлі па гасцінцы людзі.
Людзі глядзелі на камень, камень глядзеў на людзей, глядзеў-прыглядаўся і ўрэшце зрабіўся відушчым.
І стала яго відушчасць праменіцца на гасцінец і абпраменьваць кожнага, хто па гасцінцы ішоў.
І сталі рабіцца відушчымі людзі, і стаў кожны ў кожнага бачыць думкі – пярэстыя, простыя, пакручастыя, белыя, шэрыя, чорныя, каляровыя, і стаў кожны кожнага без слоў разумець.
Спачатку ўсе ўзрадаваліся, а потым палохацца сталі гэтага свайго разумення, відушчасці гэтай нязвыклай сваей.
Накінуліся грамадой на камень – і сапхурхнулі яго ў глыбокую яму, але на трэці дзень стала свяціцца яма,
укінулі камень у мора – на шосты дзень стала свяціцца мора
закінулі камень высока ў нябёсы – камень адно ўсміхнуўся і стаў, быццам новы месяц, кружыцца іззяць над усёю зямлёй.
Так скончыўся колішні свет і настаў – відушчы.

*Алесь Разанаў*



**Камень каля в.Латочкі**

**(заканчэнне, пачатак на с.10)**

*Інфармацыя, змешчаная ў "Браслаўскіх сшытках", з'яўляецца некрытычным паўторам савецкай прапаганды, якая гэты выпадак скарыстала на сваю карысць, робячы з Мікалая Лапузы героя. На самой справе ён быў трагічнай ахвярай уласнай памылкі і гітлераўскага злачынства.*

* * *

***Сведчанне.***

*Я, ніжэйпадпісаны Рамуальд Анджэеўскі, жыхар г.Ольштына, вул.Абрамоўскага 72 (Польшча), былы жыхар Браслава на Віленшчыне, сведчу аб наступным: мне вядомы факт з часоў гітлераўскай акупацыі аб расстрэле беларускай паліцыяй (так званай Szutz Policei) жыхара Браслава, нашага калегі Мікалая Лапузы. Згаданы М.Лапуза абслугоўваў мясцовы радыёвузел, так званую "кропку". У 1943 годзе ён памылкова падключыў да радыёсеткі трансляцыю ангельскай станцыі ВВС на нямецкай мове. Паколькі ён не ведаў нямецкай мовы, то не мог зарыентавацца ў антынямецкім змесце перадачы. Перадача была пачута немцамі, якія стаялі ў Браславе, і яны загадалі неадкладна расстраляць хлопца. Аб палітычным, савецкім падтэксце падключэння той перадачы М.Лапузам нічога ў тагачасным Браславе не было вядома і хутчэй за ўсё ў варунках нямецкай акупацыі гэта было немагчыма.*

*Дадзенае сведчанне выдаецца па просьбе пана Ежы Жураўскага з Казімежа Дольнага для патрэб зацікаўленага гісторыка.*

*Ольштын, 22 мая 2002 года.*
*Рамуальд Анджэеўскі.*

*Дакумент завераны пячаткай Ольштынскага праўлення Саюза польскіх эмігрантаў у краіне.

* * *

Рэдакцыі вядома дакладная дата смерці Мікалая Лапузы. У Дзяржаўным архіве Віцебскай вобласці захоўваецца комплекс дакументаў Браслаўскай раённай управы часоў вайны. Сярод спраў ёсць "Справаздача акруговага ўрача. 1941-44 гг" (Ф.2848, воп.1, спр.263), дзе ёсць запіс аб дне смерці юнака. Гэта адбылося 14 лістапада 1943 г.

## *Куток калекцыянера*




У 2002 г. рэспубліканскае дзяржаўнае аб'яднанне "Белпошта" выпусціла некалькі паштовых сувеніраў, прысвечаных Браслаўшчыне. Філатэлісты змогуць папоўніць свае калекцыі маркай "Міжнародны дзень экатурызму-2002" на якой змешчаны фотаздымак возера Снуды з гары Маяк. Марка выпушчана разам з купонам з адлюстраваннем карты наваколля Браслава. Акрамя гэтага марку можна набыць асобным лістом, а таксама ў выглядзе сувенірнай кніжачкі "Нацыянальны парк "Браслаўскія азёры". Кніжачка мае маленькі ліст з чатырох марак, купоны якіх утвараюць карту наваколля Браслава ў павялічаным маштабе. На вокладцы – від на в.Слабодку і возера Несціш.








"Белпоштай" быў падрыхтаваны мастацкі канверт першага дню. На ім фотаздымак наваколля Слабодкі (фатограф Сяргей Плыткевіч), марка з купонам і штэмпель першага дню. Гашэнне канвертаў адбывалася ў раённым вузле сувязі 10 верасня 2002 г.

Прысвечаны Браслаўшчыне і мастацкі канверт са стандартнай маркай. На ім змешчаны фотаздымак возера Снуды (фатограф С.Плыткевіч). Гэты канверт прадназначаны не столькі для калекцыянераў, колькі для ўсеагульнага карыстання. Яго вельмі прыемна адправіць з Браслаўшчыны сябрам і знаёмым.



**« ПАВЕТ »** **DISTRICTUS**
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.
Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл./ факс 21-4-28
E-mail: bkt@bsmus.lingvo.vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена на абсталяванні ГА «Усяслаў Чарадзей» (Наваполацк) пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»